


DISTRICTUS

# ПАВЕТ



ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 6 (31) ЧЭРВЕНЬ 2004 г.

Уладзімір Кандрусевіч. Браслаў. Дрыварыт

У стагоддзях трывуча стаяў
На пагорку стары Брачыслаў.
У пагоду, асеннюю золь
Мала радасці меў, толькі боль.
Мо з сівое тае даўніны
Прыплываюць к прычалу чаўны?

Замкавая гара ... і касцёлы ...
Браслаў! Лёс твой быў невясёлы.
Разбуралі, хаціны палілі,
Дзяцей, матак тваіх паланілі.
Мо ад слёз тых, пралітых у горы,
Свецяць густа сінечай азёры?

*Святлана Лобач*

## ВЕСТКІ

На беразе возера Струста 8-11 чэрвеня адбыўся раённы турыстычны злёт. Ён складаўся з дзьвюх частак: 8-9 чэрвеня спаборнічалі педагагічныя работнікі, лепшымі сярод якіх былі прадстаўнікі школ з Браслава, Ахрэмаўцаў, Цэнтра дзіцячай творчасці. 9-11 чэрвеня спаборнічалі вучні школ раёна. Можна сказаць, што для дзяцей не столькі перамога была важнай, колькі сам удзел, поўны рамантызму. Хаця і тут былі свае прызёры.



8 чэрвеня адбылося ўрачыстае адкрыццё надмагільнага помніка сына паэткі Марыны Цвятаевай Георгія Эфрона, які ў ліпені 1944 г. прапаў без вестак пры вызваленні Браслаўшчыны. Ва ўрачыстасцях прымалі ўдзел школьнікі, прадстаўнікі ваенкамата і ўлад.

Месца пахавання Г.Эфрона каля могілак в.Струнеўшчына выявілі ў 1970 г. з дапамогай ваенкамата і ваеннага журналіста У.Грыбанава сястра паэткі Анастасія. Паступова магіла прыходзіла ў заняпад. Пасля крытычных выступленняў у СМІ надмагільны помнік хуценька аднавілі. На сённяшні дзень не прадстаўляецца магчымым сказаць праўду – ці пахаваны на нашай зямлі Г.Эфрон.



На V-м Усебеларускім фестывалі нацыянальных культур Браслаўшчыну прадстаўлялі Тамара Ундруль, супрацоўніца музейнага аб'яднання, якая дэманстравала традыцыі польскай дыяспары, і мастацкі калектыў Відзаўскай музычнай школы, які прадстаўляў песенную культуру літоўцаў.

# КАСЦЁЛ АДЗНАЧАЕ ЮБІЛЕЙ



Касцёл перад І-й сусветнай вайной

26 чэрвеня ў Відзах адбыліся вялікія ўрачыстасці, звязаныя з 90-гадовым юбілеем мясцовага касцёла. Адмыслова прысутныя адзначылі 65-годдзе фундатарскай дзейнасці главы каталіцкага касцёла Беларусі кардынала Казіміра Свёнтака.

Касцёл у Відзах – адна са славутасцей Браслаўшчыны. Храм мае вышыню шпіляў 59 метраў ( па некаторых звестках – 75 метраў) і лічыцца адным з самых высокіх у нашай краіне Касцёл уражвае прыгажосцю прапорцый, лёгкацю, узнёсласцю канструкцый. Гэта адзін з самых лепшых помнікаў архітэктуры неаготыкі Беларусі. Будынак узвялі перад самым пачаткам першай сусветнай вайны, у 1914 г. Амаль тры гады побач з храмам праходзіла лінія фронту. Ваенныя адмеціны не былі да канца ліквідаваны нават у 30-я гады. Значныя пашкоджанні касцёл атрымаў у гады другой сусветнай, пасля дзесяцігоддзі стаяў зачынены.

Рамантаваць такі храм пасля дзесяцігоддзяў занядбання – справа вельмі цяжкая. Але вернікам удалося скончыць да юбілея асноўную працу.

Храм радуе вока і белізной атынкаваных сцен, і прыгожым алтаром, і добраўпарадкаванай навакольнай тэрыторыяй.

Свята выклікала цікавасць літаральна ўсіх жыхароў мястэчка – не толькі каталікоў, але і праваслаўных і старавераў. На ўрачыстасці прыехала некалькі біскупаў, дзесяткі ксяндзоў. З нецярплівасцю чакалі кардынала Казіміра Свёнтака. Пасля яго прыезду і благаслаўлення прысутных пачалося ўрачыстае набажэнства ў касцёле. Шмат добрых



Падчас урачыстай імшы



Звон ад сям"і Гір"ятовічаў

слоў было выказана ў адрас мясцовай парафіі, якая здолела адрамантаваць храм, у адрас юбіляра кардынала К.Свёнтака, якому былі ўручаны шматлікія дарункі, у тым ліку карціна з выявай храма. За сродкі сям'і Гір'ятовічаў, прадстаўнікі якой жывуць у Польшчы і Амерыцы, спецыяльна быў зроблены і ўмацаваны звон , які заняў сваё месца на званіцы касцёла.

Побач з храмам было ўвесь час людна. Браслаўскае музейнае аб'яднанне арганізавала выставу прац народных майстроў Браслаўшчыны. Пасля завяршэння асноўных урачыстасцей з ганка касцёла выступіў мастацкі калектыў "Вярба" (Дрысвяты).

*Рыжанка Вера Баладэ рэгулярна піша лісты ў музей. У іх вершы, успаміны з дзяцінства, праведзенага ў Браславе. У памяці Веры Баладэ першыя дні вайны, акупацыя, трагедыя мястэчкоўцаў-яўрэяў. У апошнім лісце прыводзіцца цікавая схема першай бамбёжкі Браслава. Савецкія самалёты зрабілі налёт на калону нямецкіх войскаў, якія ўцягнуліся ў мястэчка. Бомбы ўпалі на ўскраіне Браслава, не зачапіўшы варожую калону. Пацярпела забудова мястэчка, з'явіліся першыя ахвяры сярод мірных жыхароў. Вера Баладэ намалявала ўчастак, дзе выбухнулі бомбы. Цяпер гэта раён кінатэатра, універмага і гарадскога сквера.*




*Прапануем увазе чытача верш Іны Гарэлік, прысвечаны Браславу, гораду яе дзяцінства. Іна Гарэлік жыве і працуе ў Нью-Ёрку. Яна дачка вядомага краязнаўца, настаўніка гісторыі, аўтара публікацый па гісторыі Браслава Аляксандра Гарэліка.*

*Маленства, праведзенае сярод маляўнічых азёраў на ўсё жыццё пакінула светлыя ўспаміны, якія кранаюць трапяткія струны душы.*

* * *

*Как хочется вернуться в тишину*
*И побродить по Замковой Горе,*
*Вдохнуть сосновый аромат земли*
*И слушать птичьи трели на заре.*

*Как хочется вернуться в тишину*
*И посетить Браславские озера.*
*Побыть наивным глупым фантазером,*
*Вернув навек ушедшую весну.*
*Как хочется вернуться в тишину.*

*Там зеркала – твои друзья, а не враги,*
*И все еще мечтаешь встретить принца,*
*Там ждут тебя родные с детства лица,*
*А на столе – компот и пироги.*

*Как хочется вернуться в тишину.*
*И верить в то, что ты еще любима.*
*Все будет хорошо, все поправимо.*
*Как хочется вернуться в тишину...*

*Пляменніца народнага паэта Беларусі Янкі Купалы Яніна Раманоўская перад вайной працавала ў Браславе лекарам. Янка Купала збіраўся наведаць наш горад, палюбавацца маляўнічымі азёрамі. Цікавыя факты. Пра гэта мы даведаліся з матэрыялаў, якія перадала ў музей дырэктарка Літаратурнага музея Я.Купалы Жанна Дапкюнас. Матэрыялы складаюцца з артыкула сястры Яніны Раманоўскай Ядвігі, копіі розных лістоў і дакументаў, фотакопій, друкаваных выданняў – атрымліваецца невялічкі архіў Яніны Раманоўскай. Некаторыя з іматэрыялаў прапануем увазе чытача.*

# Фотаздымак нагадаў...

## *(экскурсія ў Вязынку)*

У ліпені 1977 года да мяне (***Ядвігі Раманоўскай - рэд.***) ў ЛМЯнК, дзе я працавала галоўным захавальнікам фондаў музея, прыйшла прыгожая жанчына з адзнакай узнагарод – урач, былы франтавік Брэус Ефрасіння Рыгораўна, каб я з ёю і групай урачоў, якія да Вялікай Айчыннай вайны вучыліся разам з маёй сястрой Янінай Юльянаўнай Раманоўскай у Мінскім медыцынскім інстытуце, цяпер яны прыехалі з розных куткоў Беларсі і Літвы, каб прысвяціць гэту паездку 95-ай гадавіне з дня нараджэння Янкі Купалы, паехаць у Купалаўскую Вязынку, дзе ў 1882 г. нарадзіўся будучы слынны паэтБеларусі.

І вось мы ўжо ў аўтобусе і рушым па дарозе на Маладзечна.

Я вяду экскурсію, расказваю пра сям'ю Луцэвічаў: пра бацьку – Дамініка Ануфрыевіча, маці – Бянігну Іванаўну, пра сясцёр паэта Ганну, Марыю, Леакадзію (маю маці). Яны папрасілі мяне расказаць пра маю сястру Яніну Юльянаўну Раманоўскую, якая з імі разам вучылася.

А нарадзілася Яніна ў Беларусі 12 снежня 1918 г. Хрэсьбіны гулялі ў 1919 годзе. Хрышчонымі бацькамі былі Уладзіслава Францаўна Луцэвіч і Туміловіч з Лекараўкі. Быў на хрысцінах і Іван Дамінікавіч. Янінка расла, так яе называлі дома, а калі пайшла ў школу, там пачалі называць проста Ніна. Закончыўшы яна пачатковую школу - 4 класы ў в. Карпілаўка Лагойскага раёна. Затым, калі ў 1927 г. нашы бацькі назаўсёды пераехалі ў Мінск у дом па вуліцы Кастрычніцкая, 36а, Ніна пайшла вучыцца ў 21-ю сярэднюю школу, якая знаходзілася прыкладна насупраць цяперашняга цырка. Разам з ёю ў адным класе вучыўся і Юрка Міцкевіч – сын Якуба Коласа, які загінуў напачатку Вялікай Айчыннай вайны.

Дзядзька Янка да Ніны адносіўся станоўча. Яго вабіла яе разважлівасць, розум, спагадлівасць да чужой бяды, гатоўнасць заўсёды прыйсці на дапамогу. Любіміца бабулі Бянігны Іванаўны – Ніна была вельмі абаяльнай, мела прыгожыя вочы, доўгія косы, была вышэй сярэдняга росту.

У Івана Дамінікавіча і Уладзіславы Францаўны сваіх дзяцей не было. Таму ўсе светлыя пачуцці і любоў да дзяцей у іх перайшла да пляменнікаў, гэта значыць да дзяцей сясцёр Купалы Марыі і Леакадзіі. А дзяцей у іх было ні многа ні мала: 9 – у Марыі і 5 – у Леакадзіі. Дзядзька Янка і цёця Уладзя ў многіх з іх былі хрышчонымі бацькамі. Так хрышчонай маці ў Яніны Раманоўскай была Уладзіслава Францаўна Луцэвіч – жонка Янкі Купалы, а хрышчоным бацькам – Юльян Туміловіч з Лекараўкі. Таму Купала і цёця Уладзя лічылі сваім абавязкам дапамагаць сёстрам у выхаванні дзяцей. Так як іх бацькі ў асноўным жылі і працавалі на вёсцы, у выхаванні дзяцей многа дапамагала Бянігна Іванаўна – маці паэта і старэйшая сястра маёй маці Ганна. За іх дабрату і ўдзел у нашым выхаванні мы плацілі ім тым жа, любоў'ю і пашанай да іх. Дапамагалі ў хатніх справах, а іх было многа і розныя: кожны дзень ставілі самавар, дапамагалі ў прыгатаванні ежы, бегалі ў краму за папіросамі "Казбек" для даядькі Янкі. Значна мы дапамагалі ў час паводкі ў 1931 г., калі разлілася Свіслач, выйшла з берагоў і затапіла дом Купалы. Старэйшыя сёстры Яніна, Уладзя і Вацлава ратавалі бібліятэку дзядзькі Янкі і Уладзіславы Францаўны, разам з дарослымі паднімалі кнігі на гарышча. А калі вада сышла, пасля рамонту памяшкання, усе кніжкі вярталі на месца. У гэтай працы найбольш уважліва праявіла сябе любіміца дзядзькі Янкі і цёці Уладзі, Яніна. Яна адказна ставілася да працы па ўпарадкаванні кніг купалаўскай бібліятэкі, на што было патрачана многа часу. У другі раз прышлося многа папрацаваць з кніжным фондам дзядзькі Янкі ў 1935 г., калі па пастанове ўраду былі адселены пабочныя жыльцы з дому Луцэвічаў. З'явілася магчымасць выдзеліць значную плошчу пад сцелажы з кнігамі бібліятэкі. Расстаўлялі кнігі пад кіраўніцтвам дзядзькі Янкі, а карысталіся імі абавязкова з яго дазволу. Так беражліва ён адносіўся да кніг.

У 1935 годзе, калі па пастанове ўраду ва ўрочышчы Ляўкі Аршанскага раёна была пабудавана лецішча для Янкі Купалы і можна было там праводзіць час – на канікулы пляменнікі разам з Леакадзіяй Дамінікаўнай ехалі на дачу не толькі адпачываць, але і дапамагаць Леакадзіі Дамінікаўне ў гаспадарчых справах: нарыхтоўвалі прадукты харчавання, адпаведна захоўвалі іх, зрабілі усё неабходнае да прыезду Івана Дамінікавіча і Уладзіславы Францаўны на дачу. Хадзілі па ягады і грыбы, перабіралі іх. Мама іх варыла, смажыла, марынавала. Сустракалі гасцей, прымалі іх, упадкоўвалі іх адпачыць. Пасля канікулаў вярталіся ізноў у Мінск на вучобу.

Па заканчэнні сярэдняй школы Яніна падала дакументы ў Мінскі медыцынскі інстытут на лячэбны факультэт. Дзядзька Янка не пярэчыў яе задуме, а наадварот, адобрыў яе. Увогуле, дзядзька Янка адносіўся stationоўча да Яніны. Заўсёды з паездак прывозіў ёй гасцінцы, дасылаў пісьмы. У адным з лістоў пісаў: "Янінка, Янка, цёзка мая, як жывеш, навук многа, а ты адна, як з імі спраўляешся. Я тут у Цхалтуба лячуся, прымаю цудоўныя ванны, але сумую па Беларусі. Такой прыгожай прыроды як у нас, нідзе няма. Такога лесу, грыбоў. Усяго таго, што натхняе на паэтычную творчасць."

Праляцелі гады вучобы ў інстытуце, Яніна паспяхова здала дзяржаўныя экзамены, атрымала дыплом урача-лячэбніка. Ішоў 1939 год. Выпускны вечар у інстытуце, на якім я прысутнічала, усе ў прыўзнятым настроі. Выкладчыкі, прафесура, акадэмікі: Пракапчук, Леонаў, Корчыц, Голуб і іншыя. Урачысты вечар у інстытуце закончаны. Усе прысутныя атрымалі запрашэнне на баль, які адбыўся на фабрыцы-кухні, што месцілася недалёка ад цяперашняй гасцініцы «Мінск».



**Яніна Раманоўская. 27 студзеня 1941 г.**

Мая сястра Яніна прыйшла на гэтую ўрачыстасць з толькі што падараваным ёй дзядзькам Янкам наручным гадзіннікам. Было вельмі весела. Гаварылі прамовы, віншаванні, пелі, танцавалі. Дапазна зацягнулася развітанне. Усе выпускнікі маладыя, прыгожыя. Ужо атрымалі размеркаванне. Яніну назначылі ў Браслаўскі райздраўаддзел. Дзядзька Янка не пярэчыў накіраванню пляменніцы ў Браслаў. Ён ведаў, што яна будзе добрым сур'ёзным доктарам. У Браславе яе добра сустрэлі і вызначылі ёй напрамак працы. Акрамя паўсядзённай працы яна яшчэ пачала распрацоўваць навуковую тэму. Але Яніна пачала сумаваць па дому і блізкіх. Нават прыслала мне даведку на атрыманне пропуску, каб я з дачкой Жанай прыехала да яе. Хацела паглядзець на маленькую пляменніцу, якой менавіта яна дала імя Жана.

Справка

4. VII. 1940

Дана гр-ке Романовской НЮ. в том, что она работает в Браславском Райздраве в качестве врача. Выдана справка для представления в милицию на предмет получения пропуска её сестре Романовской Я.Ю. по месту работы сестры г.Браслав. Что и удостоверяется.

Зав. Райздравом (Бородулько)"



Б. С. С. Р.
Народный Комиссариат Здравоохранения
Браславский Районный Отдел Здравоохранения
№ 4/VII-1940 г.

Справка.
Дана гр-ке Романовской НЮ
в том, что она работает в Браславском Райздраве в качестве врача. Выдана справка для представления в милицию на предмет получения пропуска ее сестре Романовской Я.Ю. по месту работы сестры г. Браслав. Что и удостоверяется.
Зав. Райздравом Бор...

Запрашала яна прыехаць у Браслаў маму, дзядзьку Янку і цёцю Уладзю паглядзець, як яна жыве, як ёй працуецца, паглядзець на веліч і прыгажосць Браслаўскіх азёр. Дзядзька Янка абяцаў выканаць яе просьбу: "Вось толькі з'езджу ў Латвію на І-ы з'езд латышскіх пісьменнікаў." Але выканаць просьбу Ніны не давялося. Вераломнае нападзенне гітлераўскіх полчышчаў перашкодзіла іх сустрэчы на Браслаўскай зямлі.

**(Працяг у наступным нумары)**

*Слаўутыя землякі*

# ГЕОРГІЕЎСКІ КАВАЛЕР

На каталіцкіх могілках у Друі звяртае ўвагу сціплы надмагільны помнік, пастаўлены ў 60-я гады мінулага XX ст. Пазней да помніка прымацавалі пліту з паліраванага чорнага граніта, з якой пазірае чалавек у форме салдата расійскага войска. Грудзі вайскоўца ўпрыгожваюць чатыры Георгіеўскія крыжы. Гэта пахаванне Эдуарда Саснора-Сасноўскага (1889-1966), чалавека, якога можна назваць адным з герояў першай сусветнай вайны. Першая сусветная, ці "мікалаеўская" у савецкія часы называлася імперыялістычнай і яе героі былі не ў пашане. Сціпла адыйшоў з жыцця і Э.Саснора-Сасноўскі. Не адразу і сваякі вырашыліся падкрэсліць яго ўдзел у той вайне.

Нажаль, вельмі мала захавалася звестак пра Э.Саснора-Сасноўскага. Сабраў іх кіраўнік Друйскага школьнага музея Міхаіл Ставіцкі. Але спачатку невялікая інфармацыя пра ўзнагароду – Георгіеўскі крыж.

Святы Георгій лічыўся апекуном хрысціянскіх воінаў. Знак адрознення ваеннага ордэна Св.Георгія для ніжэйшых чыноў расійскага войска быў ўстаноўлены ў 1807 г. Першапачаткова гэта быў крыж на Георгіеўскай ленце (спалучэнне чорных і аранжавых палос сімвалізавала колеры парахавога дыму і полымя). З 1856 г. салдацкі Георгій раздзелены



на 4 ступені (1-я і 2-я ступені – крыжы залатыя, 3-я і 4-я – срэбраныя). З 1916 г. замест золата і срэбра ўжываліся жоўты і белы металы. Салдацкі крыж лічыўся вельмі прэстыжнай узнагародай, ён даваўся за канкрэтныя подзвігі («Кто будучи разведчиком, с явною личною опасностью добудет и доставит важное о противнике сведение … Кто с опасностью для жизни спасет знамя или штандарт … Кто в бою возьмет в плен непрятельского штаб-офіцера или генерала … Кто на предложение сдачи ответит твердым и непоколебимым отказом …» і г.д.) Пасля кастрычніцкай рэвалюцыі, калі царскія ўзнагароды адмянілі, георгіеўскі крыж насіць дазвалялася. Дарэчы, савецкі салдацкі ордэн Славы носяць на Георгіеўскай ленце. Поўнымі Георгіеўскімі кавалерамі, г. зн. узнагароджанымі крыжамі ўсіх чатырох ордэнаў, сталі каля 40 тысяч чалавек. Усе яны лічыліся героямі вайны.



Дакументы Э.Саснора-Сасноўскага згубіліся, таму без архіўных пошукаў (справы на поўных кавалераў зберагаюцца ў Расійскім ваенна-гістарычным архіве) немажліва дакладна распавесці аб яго подзвігах. Небагата ведаюць і яго сваякі. Паводле іх слоў першы крыж Э.Саснора-Сасноўскі атрымаў за бой у беларускім горадзе Смаргоні, калі ён прыбраў са званіцы касцёла стралкоў непрыяцеля. Геройскі ўчынак дапамог вызваленню горада. Эдуард Саснора-Сасноўскі – нараджэнец Латгаліі (Латвія), паходзіць з даўняга шляхецкага роду. Быў жанаты на Мальвіне Жывіцкай. Іх сям'я лічылася даволі багатай і каб пазбегнуць высылкі перабралася ў Друю. Сын Уладзімір працаваў калгаснікам. Унучка героя вайны Марыя была паштальёнам у Друі, яе муж Сырэвіч Станіслаў – мясцовым чыгуначнікам. Праўнучкі Э.Саснора-Сасноўскага – Алена, Ганна і Марыя вучыліся ці працягваюць вучобу ў Друйскай школе.

---

**Валерый Каралёў**

# У АПОШНІЯ ДНІ...

Не так даўно трапіў мне ў рукі незвычайны гістарычны дакумент. Прадстаўляе ён з сябе агульны сшытак больш чым шасцідзесяцігадовай даўнасці, спісаны каліграфічным почыркам з па-мастацку аздобленай першай старонкай і ўклеенымі некалькімі фотаздымкамі. Сам твор на польскай мове з'яўляецца жыццеапісаннем вучаніцы Друйскай гімназіі імя С.Баторыя шчырай каталічкі Ядвігі Рачкоўскай, цярпеўшай ад невылечнай таццы хваробы і памершай ад яе, пасля доўгіх, невыносных для звычайнага чалавека пакутаў. Яе крыжоваму шляху, нязломнай і нязгаснай веры, духоўнай чысціні і вялікай мужнасці прысвечаны гэты твор, пазначаны аўтарам, ксяндзом Феліксам Чачотам, 25-м траўня 1943 года. Але ёсць у гэтым творы нямала апісанняў падзей, што адбываліся ў Друі ў верасні-снежні 1939 года, і звязаных з ліквідацыяй гімназіі і інтэрната. Зразумела, што гэта – апісанні чалавека заангажыраванага, не прымаючага камуністычны рэжым з яго ідэалогіяй і мараллю, асуджаючага дзеянні новых партыйна-дзяржаўных функцыянераў – вяршыцеляў чужых лёсаў. Трэба адзначыць і тое, што аўтар заўсёды перад прозвішчам тых функцыянераў пазначае іх нацыянальнасць, што можа выклікаць падазрэнні ў яго шавінізме і антысемітызме. Але не будзем забывацца на тое, што гэтыя сацыяльныя хваробы не зжытыя поўнасцю ў нашым грамадстве аж дагэтуль, а ў тыя

часы насельніцтва ў нашай мясцовасці было падзелена канфесійна і нацыянальна значна глыбей. Па-другое, не сакрэт, што ў тыя часы яўрэйская грамада ў вельмі значнай сваёй часціы была накіравана па-прарасейску і пракамуністычна не ў апошнюю чаргу з-за прагматычных мэт і інтарэсаў. Усё гэта не магло не быць заўважана ўдзельнікамі тых падзей і дапытлівым назіральнікам, што жылі ў тых канкрэтных умовах, атрымалі тагачаснае канкрэтнае выхаванне і мелі свае пэўныя погляды і прынцыпы.

Сёння гэты сшытак захоўваецца ў родных Ядвігі. Але звернемся да старонак апошніх дзён існавання гімназіі...

"...Нягледзячы на тое, што распачалася вайна на граніцы краіны, у Друі быў адносны спакой. Пачалі мы заняткі. З-за недахопу настаўніцкіх кадраў лапілі дзюры як маглі. Праца ішла нармальна. Кожны дзень прыносіў новыя весткі, а наша моладзь з неспакоем сачыла за бегам падзей. У Друйскай гімназіі налічвалася ў той час каля ста вучняў і вучаніц – каталікоў, праваслаўных, стараверау і яўрэяў – сапраўдная мазаіка...

...На золаку 17 верасня 1939 года, у нядзелю, нейкі нязвыклы рух на вуліцах Друі. Падае страшная, як гром з яснага неба, навіна:

– Ідуць бальшавікі! – Ужо ў Лявонпаллі!

– Праз некалькі гадзін будуць тут!

Усе разумеюць, што ідзе навала.

– Уцякаць! Але куды?

Беганіна... Вэрхал...

Адны – у Літву, другія – у Латвію. Мы павінны застацца!

...У той жа дзень Друя апусцела. Увечары быў падпалены жалезны мост праз Друйку, а вялікае зарыва падпала кідала далёка чырвоныя водсвіты, будзячы ўсюды трывогу. Аж пакуль ксёндз-дырэктар Яўген Кулеша не арганізаваў тушэнне падпалу.

Ужо гэтым вечарам на вуліцах мястэчка ўзброеныя яўрэі (*яны складалі пераважную большасць насельніцтва Друі тады – В.К.*) спаўнялі ролю паліцыянтаў. Праходзіў адзін дзень, другі, а бальшавікі не спяшаліся ў Друю. Мелі жаданне, каб іх запрасілі. Кожны дзень зранку з букетамі кветак выходзіў натоўп яўрэяў і ўсякай галоты, спадзеючыся на здабытак – на сустрэчу з доўгачаканым войскам. Яно, аднак, не надыходзіла. Нарэшце, у сераду раніцай сярод варожых воклічаў "Урра! Урра!", сярод дэманстрацыі пад чырвонымі шматамі ўведзена "вызваленчая армія"...

... Выданы загад, што ўсе школы мусяць працягваць працу.

– А што рабіць з гімназіяй? Як магчыма аддаць са спакойным сумленнем каталіцкую моладзь ў палон бязбожнай агітацыі?

А наконт гэтага не мелі мы аніякіх ілюзій.

З розных меркаванняў пастаноўлена працягваць працу гімназіі, пакуль гэта будзе магчыма.

Моладзь зноў пачала збірацца. Дырэкцыя атрымала загад арганізацыі новых экзаменаў для ўсіх – зразумела, у першую чаргу для яўрэяў (Друйская гімназія імя С.Баторыя была заснавана айцамі-марыянамі). Пазней было загадана прымаць і тых нават, якія таго "новага" экзамену не здалі...

...Былі нават і такія выпадкі, калі муж на вайне магчыма кроў праліваў ці дзесьці ў Сібіры з голаду згінаў, а жонка ішла на баль танцаваць з "байцамі"...

...Ужо пасля двух тыдняў заняткаў (*ужо пры новай уладзе – К.В.*) распачалося абмежаванне нашых правоў ва ўласнай гімназіі. Перш за ўсё новая ўлада звольніла з пасады дырэктара ксяндза Яўгена Кулешу, а на яго месца прызначыла іншага, а пазней прыехаў новы дырэктар – яўрэй Казанскі, які з наганам на пасе прыйшоў выхоўваць моладзь. Перш чым заняў сваю пасаду, за некалькі дзён да гэтага быў прысланы "важны" 20-гадовы саплівец, рускі, нейкі Лебедзеў, які быў павінен зліквідаваць гэтую гімназію, а стварыць новую, савецкую школу. Па яго загаду сабралася моладзь у зале. Лебедзеў выступаў, расхвальваючы заслугі "советского правительства", тлумачачы, што яно адно-адзінае клапоціцца аб моладзі і яе адукацыі. Але паколькі новага настаўніцкага персаналу не было, мы і надалей павінны былі вучыць, але, зразумела, не ўсе прадметы. У заключэнні сваёй прамовы сказаў, што ўрокаў рэлігіі не будзе, таму што Бога "нет", аб чым ён можа засведчыць фізічнымі вопытамі. Моладзь паставілася да гэтага пагрозліва, выкрыкваючы "Вон!" (Pryecy!). Яўрэя, які правакаваў амаль не пабілі, але дзякуючы ксяндзу-дырэктару, да гэтага не дайшло. Моладзь заманіфеставала свае пачуцці і з абурэннем пакінула залу. У апошні раз адчытала на калідоры "Анёл Панскі" і праспявала "Мы жадаем Бога" на вялікае ўражанне яўрэя і расіяніна. Моладзь пачала разыходзіцца па хатах, развітваючыся са школай. Шмат хто плакаў уголас, а нават заўважылі, што і некаторыя яўрэечкі таксама плакалі. Моладзь пастанавіла не хадзіць на заняткі, але апасаючыся, каб нас (*ксяндзоў – В.К.*) не абвінавацілі ў варожай агітацыі, большасць вучняў працягнула займацца, тым больш што настаўніцкі персанал амаль поўнасцю застаўся той самы. Ксёндз-дырэктар вельмі жадаў, каб моладзь і надалей вучылася, пакуль магчыма, і каб большасць дзяцей была дзецьмі католікаў. Новая ўлада толькі зыходзячы з неабходнасці мусіла пагадзіцца з тым, што ў савецкай школе настаўнічалі каталіцкія ксяндзы. Спадзяваліся, што магчыма знойдуцца такія, што стануць іх прыхільнікамі, а магчыма і камуністамі. На тое не спазніўся прыехаць пэўны яўрэй Ніссенбаум, прыхільнік дарвінізму ці паходжання чалавека ад малпы... Прапанаваў нам, каб мы з ім супрацоўнічалі... Зразумела, што нічога не дасягнуў.

Дырэктар Казанскі, убачыўшы, што нічога не ўдаецца зрабіць, схапіўся за іншы спосаб. Прапанаваў нам праз пасрэднікаў, каб мы знялі сутаны і, зразумела, тады будзем мець магчымасць працаваць далей і атрымліваць высокія заробкі. Прапанова высокіх заробкаў рассмяшыла нас вельмі. Таму што, пакуль на другім паверсе нам прапаноўвалі высокія заробкі, на двары і ў кухні тое, што было наша, бессаромна рабавалася. Падзякавалі мы дырэктару за абяцаныя высокія заробкі, абы толькі нашы не хапалі. У той самы дзень абеду мы не елі, таму што не было з чаго гатаваць.

Дырэктар разлічваў на тое, што калі б мы знялі сутаны, то згубілі б павагу моладзі, а ён бы меў магчымасць смела сказаць, што ксяндзы працуюць дзеля грошай, а свае рэлігійныя ідэалы ахвотна абменьваюць на чырвонцы. Праз два тыдні, як нічога не было дасягнута ў гэтай справе, было нам адмоўлена ў працы, зразумела, мы тых вялікіх аплат за сваю працу (*ужо пры новай уладзе – В.К.*) мы таксама не ўбачылі, таму што слова сапраўднага камуніста дадзенае некамуністу ні да чога не абавязвае. Нашы месцы занялі іншыя – больш рашучыя...

Пасля распачаўся наступ на інтэрнат у Сясцёр-Еўхарыстак. Амаль штодня розныя дэпутаты, дэлегаты

перaследвалі ціхі кляштарак, абяцаючы дзяўчынкам лепшыя ўмовы і пасоўваючыся нават да пагроз, каб толькі зышлі з інтэрнату ў манашак. Усю справу абароны інтэрнату Сёстры аддалі ў рукі дзяўчынак на чале з Ядвігай, якая была найболей падрыхтаваная да той дыпламатыі. Калі ўзнікала патрэба, выходзіла Ядзя са сваімі сяброўкамі да брамы і з прыроджаным пачуццём годнасці як найспакайней адказвала на ўсе абяцанні: "А нам і тут добра! Просім намі не цікавіцца!" І гэтак адпраўляла з нічым. Ядзя заўсёды добра іграла сваю ролю, выдаючы як быццам нічога не ведала аб тым, што на самай справе было патрэбна гэтым бязбожнікам. Іншы раз гэткая размова была сапраўднай камедыяй, падчас якой дзяўчынкі дасканала забаўляліся.

Аж аднойчы прыйшла дэлегацыя на чале з друйскім яўрэем Мусіным і загадала дзяўчынкам да 1 снежня перабрацца на іншыя кватэры, таму што кляштару больш не будзе. Дзяўчынкі, пачуўшы такі прысуд, пачалі плакаць, а Ядзя прапанавала: "Дзяўчынкі! Пойдзем у капліцу прасіць Пана Езуса, каб не дапусціць таго, каб сясцёр разагналі!" І ўсе пабеглі і горача прасілі Езуса аб апецы над сёстрамі і кляштарам. Напэўна, Пан Езус выслухаў тыя просьбы, бо сёстры ў сваім кляштарку шчасліва перажылі гэтую навалу. Інтэрнат існаваў аж да Раства Хрыстова, калі сёстры самі яго зліквідавалі.

... Пасля адмовы працы ў гімназіі цяжка нам было сядзець дома, асабліва ў такія цяжкія часіны. Таму былы дырэктар Айцец Яўген Кулеша пачаў праводзіць рэкалекцыі ў розных парафіях, каб ратаваць людзей ад паняверкі і бязбожжа. Мне выпала праводзіць так званыя "дзіцячыя дні" як і дапамогу ў Слабодкаўскай парафіі. Таму рэдка бываў у Друі. Ксёндз Уладзіслаў Бакалаж у той час праводзіў лекцыі рэлігіі для гімназічнай моладзі ў кляштарнай капліцы... Распачалася агітацыя і шмат наіўных пачало шукаць сабе іншых "багоў".

Нарэшце надышоў дзень 8 снежня - Свята Багародзіцы - Бязгрэшнае Зачацце Дзевы Марыі - і адначасова 40-гадзіннае набажэнства ў Друйскім касцёле. Каталіцкая моладзь, нягледзячы на абяцаныя рэпрэсіі супраць тых, хто прыме ўдзел у набажэнстве, не пайшлі ў школу (за некалькімі выключэннямі), але пайшлі ў касцёл, калектыўна прыступіўшы да Святой Камуніі...

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

*Вера Баладэ з Рыгі ў адным з лістоў піша, што са спазненнем даведалася пра смерць сваёй сяброўкі Валянціны Чэкан (Дварэцкай), якая жыла ў в.Ахрэмаўцы. Ад свайго імя і імя сябровак Раісы Сіраты, Тамары Цыганковай, Тоні Гарбачонак з Рыгі, Іветы Карабейнікавай, Ларысы Ісаевай з Краснадара, Ілоны Жук з Калінінграда, Тэрэсы Пастушак з Польшчы, Вера Баладэ просіць выказаць глыбокае спачуванне родным і блізкім і ўспомніць добрым словам нябожчыцу. Валянціна Чэкан (Дварэцкая) належыць да кола Праведнікаў Свету, у гады акупацыі яна ўдзельнічала ў выратаванні яўрэяў. Матэрыялы пра яе ўключаны ў кнігу "Праведники Народов Мира Беларуси", аб якой пішацца на наступнай старонцы. Прапануем увазе чытача ліст сведкі А.Рукшына, які згадвае абставіны выратавання, у т.л. і ўдзел Валянціны Чэкан. Памяць пра гэтую жанчыну зберагаюць не толькі блізкія, але і ўсе, каму дорагі ідэі гуманізму і чалавекалюбства.*

Я, Рукшын Аляксандр Мееравіч нарадзіўся 20 снежня 1930 г. у в.Замошша Браслаўскага раёна, Віцебскай вобласці, Рэспубліке Беларусь.

Працую загадчыкам аддзела бібліятэкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Я жанаты, ёсць дачка (у дачкі свая сям'я).

У час вайны нашую сямью хавалі: Дварэцкі Уладзімір Людвікавіч, 1880 г.н., загінуў у час вайны. Дварэцкая Марыя Захараўна, 1900 г.н., іх дзве дачкі – Валянціна Уладзіміраўна, 1929 г.н. (зараз прозвішча па мужу Чэкан Валянціна Уладзіміраўна). Жывуць: Віцебская вобласць, Браслаўскі раён, п/а Ахрэмаўцы, вул.Паркавая, 9; Клаўдзія Уладзіміраўна, 1922 г.н. (па мужу Ламберт Клаўдзія Уладзіміраўна). Жыве: г.Браслаў, вул.Булойчыка д. 7, кв.2.

У час вайны сям'я Дварэцкіх займалася сельскай гаспадаркай. Зараз Дварэцкія на пенсіі.

У пачатку вайны ў 1941 г., я ў складзе сваёй сям'і жыў у в.Замошша, Замошскага сельсавета Браслаўскага раёна Віцебскай вобласці. Калі нямецка-фашысцкія захопнікі захапілі нашую мясцовасць яны забралі нашую карову, хатніх птушак і іншую хатнюю гаспадарку. Выгналі нас у в.Кіслаўшчына. там таксама жылі яўрэі. Калі немцы пачалі вывозіць яўрэяў з вёсак у буйныя населенные гарады і растрэльваць, наша сям'я збегла ў сваю вёску Замошша. У Замошшы нас добразычліва прыняла сям'я Дварэцкіх: З сярэдзіны красавіка 1942 г. па чэрвень 1942 г. сям'я Дварэцкіх хавала нас ад немцаў на гарышчы хаты, у лазні, у хляву. Нас карміліі .... бясплатна. З пачатку ліпеня 1942 г. мы хаваліся ў лесе. Але і пасля сям'я Дварэцкіх працягвала дапамагаць нам і іншым яўрэйскім сем'ям, давалі прадукты харчавання. Ратуючы нас сям'я Дварэцкіх рызыкавала сваім жыццём. Калі б немцы знайшлі нас, то мы б былі расраляныя разам з сям'ёй Дварэцкіх. У цяперашні час мы сябруем і падтрымліваем сувязь з Дварэцкай Марыяй Захараўнай, Валянцінай Уладзіміраўнай і Клаўдзіей Уладзіміраўнай. Жывем як родныя. Калі выпадае магчымасць мы бываем у іх, а яны ў нас. Вядзём перапіску. Паміж нашымі сем'ямі – узаемапаразуменне.



**Помнік на яўрэйскіх могілках невядомай ахвяры фашызму**

Калі прыбылі партызанскія брыгады ў наш край, я пайшоў у партызаны, каб адпомсціць фашыстам за тое, што яны забілі маю маці, дваіх сясцёр і іншых родзічаў. Маю баявыя ўзнагароды.

Друкуецца паводле копіі, якая захоўваецца ў Браслаўскім музейным аб'яднанні. Пераклад з рускай мовы

## Выдавецкія навіны

*У Мінску выйшаў зборнік "Праведники народов мира Беларуси". Яго ўкладальнікі — Іна Герасімава і Аркадзь Шульман. Падрыхтавана выданне Міжнародным Цэнтрам культурных сувязяў "Ізраіль-Беларусь", Музеем гісторыі і культуры яўрэяў Беларусі, яўрэйскім культурным цэнтрам "Мішпоха".*

*Праведнікамі пасля ІІ-й сусветнай вайны сталі называць не толькі людзей, якія прытрымліваюцца рэлігіёзных правілаў жыцця, але і тых, хто рызыкуючы жыццём выратоўваў яўрэяў ад знішчэння.*

*Званне "Праведнік Народаў Свету" прысвойвае Ізраільскі Мемарыяльны музей памяці ахвяраў і герояў Катастрофы еўрапейскага яўрэйства "Яд Вашэм". У гонар кожнага праведніка ў Ерусаліме высажываецца дрэўца, каля якога мацуецца шыльдачка з прозвішчам. Кожны праведнік атрымлівае ганаровую грамату і памятны медаль, на якім выгравіраваны словы з Талмуда: "Чалавек, які выратаваў адно жыццё, выратаваў усё чалавецтва ..." У свеце налічваецца больш за 20 тыс. праведнікаў, 500 з іх — грамадзяне Беларусі. 18 праведнікаў свету з'яўляюцца ці з'яўляліся жыхарамі Браслаўшчыны.*

*Кніга утрымлівае поўны спіс праведнікаў з Беларусі, а таксама матэрыялы, звязаныя з эпізодамі выратавання яўрэяў у гады вайны. Ніжэй друкуецца матэрыял пра Праведнікаў Свету - сям"ю Дварэцкіх.*

Старадаўняй Літоўскай Пагоні
не разьбіць, не спыніць,
не стрымаць!!!

Максім Багдановіч

POGONIA
W. X. LIT.



Mąż ná koniu jest dźielny, wßytek vzbroiony
Bieży pedem: miecż oftry máiac wynieśiony,
Nie ná sobie pokłada: ale śię zánośi
Ná Moskalá: o pomoc nikogo nie prośi:
Samgo záwżdy dopádnie: ledwie ták lotnego
Phaëton, po obłokách pędźi koniá swego:
Vstępuią y ią Niemcże, y możny Turczynie,
Pokiśię z was Pogoniey ktory nie nawinie.

* * * * *

Праведнікі: ДВАРЭЦКІЯ Уладзімір і Марыя, іх дочкі
ЧЭКАН (ДВАРЭЦКАЯ) Валянціна і ЛАМБЕРТ (ДВАРЭЦКАЯ) Клаўдзія
Выратаваныя: сем'і РУКШЫНЫХ, ПАЎЛОВІЧАЎ
Месца выратавання: в.Замошша Браслаўскага раёна Віцебскай вобласці
Год прысуджэння звання: 1996 г.

Сям'я Рукшыных жыла ў в.Замошша. Мелі сваю прысядзібную гаспадарку. Галава сям'і Меер быў добрым краўцом. Жылі яны добра. Расло трое дзяцей. Самай маленькай Хане было толькі чатыры гады.

Вёску Замошша немцы занялі ў першыя дні вайны. У яўрэяў забралі маёмасць, а ўвесну 1942 г. сталі звозіць іх з усіх навакольных вёсак у гета мястэчка Ёды. Рыхтавалася расправа над яўрэйскім насельніцтвам.

Рукшыны збеглі з гета і знайшлі прытулак у роднай вёсцы ў хаце Дварэцкага.

Галава сям'і Уладзімір Людвігавіч Дварэцкі да 1917 г. жыў у Пецярбурзе, там скончыў лясную вучэльню. Шмат чытаў, у хаце была вялізная бібліятэка. Ваяваў у І-я сусветную і грамадзянскую вайну. Быў адукаваным і інтэлегентным чалавекам. Працаваў ляснічым.

Для паліцаяў, сярод якіх было шмат невучаў і зайздроснікаў, Дварэцкі быў як бельма на воку. Яго стараліся зняважыць, далі працу конюха. Але зламаць характар гэтага чалавека не магла ніводная ўлада. У лесе да Дварэцкіх сталі падыходзіць і цыгане і яўрэі, якія спрабавалі выратавацца ад немцаў. Ведалі, што не данясе, а калі зможа дапамагчы – дасць нешта з харчавання і на начлег запросіць. Аднойчы да Дварэцкага прыйшла цэлая група цыганаў і ён аддаў ім увесь запас хлебу, які трымаў у старожцы.

Рукшыны жылі на гарышчы, у лазні, хляву. Летам яны зрабілі зямлянку, і сям"я ўцекачоў пайшла з вёскі. Нехта ўбачыў лясное жытло і паведаміў фашыстам. За такія даносы яны давалі ўзнагароду – два кілаграмы солі, а маглі даць і карову.

Фашысты абкружылі зямлянку. Акрамя Рукшыных, у ёй жыў баец Чырвонай Арміі, прозвішча якога мы не даведаемся ніколі. Ён і старэйшая дачка Хаўка сталі адстрэльвацца. Выратавацца з пад куль змаглі толькі Меер і яго сын Саша. Яны доўга блукалі па лесе і прыйшлі зноўку ў Замошша да хаты Дварэцкіх. Ім дапамаглі з ежай, а ўжо праз некалькі дзён Рукшын ы пайшлі ў лес да партызанаў. Яны сталі байцамі атрада імя Ракасоўскага брыгады імя Жукава.

Аляксандр Рукшын доўгія гады працаваў у Мінску ў бібліятэцы Белдзяржуніверсітэта. Пісаў, тэлефанаваў, прыязджаў у Браслаў з жонкай і дачкой.

« ПАВЕТ » DISTRICTUS
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.
Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)